# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 34 (1226) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 26 ЖНІЎНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.




**Па роднай зямлі.** *На Нарве ля Бандароў.* *Фота Я. Целушэцкага.*

## ШЧАСЛІВА!

**Весела адзвінелі ўжо першыя званкі ў пачатковых школах. Праз тыдзень запоўняцца звонкім гоманам класы прафесіянальных вучылішчаў, тэхнікумаў і ліцэяў. Наступае працавіты новы 1979/80 навучальны год.**

**Багаты ён значнымі падзеямі.**

**Вучні другога класа зрэфармаванай усеагульнай дзесяцігадовай сярэдняй школы ўпершыню прысутнічаюць на ўроках сваё роднай беларускай мовы. Ад усяго сэрца жадаем, каб гэтыя заняткі на працягу дзевяці год іхняй вучобы ў школе заўсёды былі самымі раднымі і самымі блізкімі ім. А пасеяныя ў школе настаўнікамі і ўзгадаваныя дома бацькамі залатыя зярняты пашаны і любві да роднага слова, нашых культурных багаццяў і традыцый няхай жа закаласуюць плённай нівай. Калі прыхіляем дзіцячае сэрца да ўсяго роднага, прыхіляем яго да нас саміх, да нашага жыцця, нашых найлепшых надзеяў і ўзгадоўваем сабе самую пэўную падпору на недалужную нашу старасць. І таму трэба, каб кожная матуля і кожны татулька ўзялі сабе за гонар і абавязак пасылаць свае дзеткі на ўрокі роднай беларускай мовы і заахвочваць іх да пільнай і старанай вучобы па гэтаму прадмету. Ад нас саміх залежыць, ці будзе жыць памяць пра нашае тут існаванне.**

**Пачынаецца чарговы год інтэнсіўнай і сістэматычнай працы вялікага калектыву нашых педагогаў — нястомных сейбітаў разумнага, светлага і высакароднага. Многа ахвярнасці і запалу патрабуе ён ад самых блізкіх усім нам настаўнікаў роднай беларускай мовы. Спадзяемся, што таксама як дагэтуль у асобах усіх настаўнікаў і працаўнікоў асветных устаноў будзем мець самых лепшых дзеячоў на ніве асветнай і культурнай дзейнасці ў нашым беларускім асяроддзі, актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, пашыральнікаў і супрацоўнікаў нашага часопіса і наогул роднага беларускага слова. Жадаем ім многа задавальнення ў працы і шчасця ў жыцці.**

**У добры час!**

## ПЕРШЫ КРОК

Некалькі тыдняў таму Міністэрства асветы і выхавання зацвердзіла і ўвяло як абавязваючую **праграму навучання беларускай мовы ў новай, зрэфармаванай дзесяцігадовай сярэдняй школе з дадатковым навучаннем беларускай мовы.** Апрацаваў яе калектыў вопытных нашых настаўнікаў роднай мовы пад навуковым кіраўніцтвам Інстытута школьных праграмаў. Такім чынам зроблены ўжо першы і найважнейшы крок у справе навукі беларускай мовы ў новай дзесяцігодцы, бо кожнаму з нас зразумела, што якраз праграма навучання з'яўляецца тым асноўным дакументам, які вызначае кірунак усяе працы школы па гэтаму прадмету.

Праграма апрацавана прадумана, старанна, з дасканалым веданнем таго выключна важнага значэння, якое мае навучанне роднай мовы ў працэсе фармавання ўсебакова адукаванага інтэлігентнага чалавека будучыні. Уступны яе раздзел „Мэты адукацыі і выхавання" пачынаецца са слоў: „Навучанне роднай мовы адыгрывае выдатную ролю ва ўсебаковым развіцці вучняў, аблягчае знаёмства з замацаванымі ў пісьменстве здабыткамі духовай культуры свайго народа, яго гісторыяй і прагрэсіўнымі традыцыямі, а таксама дае магчымасці моладзі актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці". Пасля вызначэння найважнейшых заданняў у навуцы ў ніжэйшых і вышэйшых класах там жа падкрэсліваецца: „Рэалізацыя праграмы беларускай мовы павінна ўплываць на: фармаванне здаровай патрэбы вучыцца гэтаму прадмету, абуджэнне зацікаўлення духовай і матэрыяльнай культурай беларускага народа, развіццё цікавасці да гісторыі і сучаснасці свайго рэгіёну, фармаванне пачуцця прыязні паміж беларускім і польскім народамі". Ажыццяўленне гэтых высакародных заданняў павінна наступаць сістэматычна і няспынна ад першага і да апошняга ўрока на працягу ўсяе навукі роднай мовы ў дзесяцігадовай школе.

Праграма змяшчае вельмі багаты ва ўсіх формах навучання і дасканалення ўменняў у мове, культуры, літаратуры і г.д. На заняткі беларускай мовы прадбачана тры гадзіны ў тыдзень ва ўсіх дзевяці класах (яе навука пачынаецца ў другім класе). Вядома, гэта надта ж ма-

Працяг на стар.4



КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

## ЗАЎСЁДЫ НА ВАРЦЕ

Чалавек тады плённа працуе, калі ён здаровы. „У здаровым целе здаровы дух" — гаворыць народная прыказка. Здароўе найвялікшы скарб чалавека, найвялікшае яго багацце — сцвярджаюць людзі, якія страцілі здароўе.

Такія ўжо мы: часта „шастаем" сваім здароўем, лёгкадумна да яго адносімся. А калі ўжо захварэем, ідзем да лекара, каб лячыў, каб ратаваў.

Лекары стаяць на варце нашага здароўя.

Можна не знаць лекара, ніколі яго не бачыць, не ведаць нічога аб яго характары і звычках, адно слова — лекар — асацыіруецца з уяўленнем нясення дапамогі хворым, бо вядома, сваё жыццё ён прысвяціў гэтай высакароднай справе.

Аб лекару Аляксандру Мальцу з Кляшчэляў можна пачуць многа добрых слоў. Чалавек гэты не толькі добры спецыяліст, але таксама і добры грамадскі дзеяч. Некалькі сказаў аб яго біяграфіі. Ён сялянскі сын з вёскі Дубна, што пад Боцькамі. У жніўні 1944 года пападае ў сфармаваны на Беласточчыне 36 полк пяхоты. Накіраваны быў на фронт. Яго баявы шлях: Варшава, Торунь, Піла, Вроцлаў, Ныса і Будзі-



шын. Аляксандр Малец пазнаў пах пораху, бачыў як раптоўна абрываецца жыццё салдата. На працягу шмат месяцаў быў на адзін крок ад смерці. Але яна яго мінавала. Суджана было яму жыць, дачакацца заканчэння вайны. Паступіў у фельчарскую школу, вучыцца на універсітэце ў Лодзі на медыцынскім факультэце, а пасля ў Ваенна-медыцынскай акадэміі (ВАМ). Пасля яе заканчэння ў 1958 годзе апякуецца здароўем лётчыкаў.

Ад восені 1961 года Аляксандр Малец працуе ў Кляшчэлях.

За час васемнаццацігадовай яго бытнасці ў кляшчэлеўскім раёне многа чаго змянілася. Змяніўся цэнтр аховы здароўя, стаўся ён сапраўдным, сучасным цэнтрам медыцынскага абслугоўвання. За гэты час значна змяніўся таксама культурна-гігіенічны стан асяроддзя. Людзі вераць у сілу медыцынскіх парад, не занядбоўваюць хвароб, хутка звяртаюцца за парадай. Вераць у карыснасць прывівак для дзяцей. А не так яшчэ даўно панаваў тут часта каўтун, лячылі знахары і бабулькі.

— Цалкавіта змяніліся адносіны да прафілактыкі, — сцвярджае лекар Аляксандр Малец. — І таму няма цяпер заразных хвароб, такіх як туберкулёз, шкарлятына, трахома, дыфтэрыт, коклюш і многія іншыя хваробы. Праўда, паяўляюцца новыя, звязаныя з бурным тэмпам нашага жыцця і з хімізацыяй сельскай гаспадаркі: хваробы кровазвароту і крывяных сасудаў, сэрца і няшчаснага рака. Апрача таго па-

(Працяг на стар. 5)

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

**ЗБЕРАЖОНЫЯ МІЛЬЁНЫ**

Віцебскае праектна-канструктарскае бюро распрацоўвае аўтаматызаваныя сістэмы кіравання вытворчасцю для буйнейшых прадпрыемстваў РСФСР, Украіны, Латвіі, Літвы, Азербайджана, Малдавіі і Беларусі па шасці галінах народнай гаспадаркі. Сістэмы базіруюцца на ЭВМ трэцяга пакалення і дапамагаюць калектывам апаратыўна вырашаць складаныя задачы вытворчасці. За тры гады ўкаранёна 16 распрацовак віцебскіх праекціроўшчыкаў. Да канца пяцігодкі будзе здадзена яшчэ 19 сістэм з гадавым эканамічным эфектам больш як 13 мільёнаў рублёў.

**У 50 КРАІН СВЕТУ**

На атамаходзе „Арктыка", у кабінах сучасных авіялайнераў, у сістэмах арашэння зямель Сярэдняй Азіі, на пультах кіравання буйнейшых электрастанцый краіны можна ўбачыць апараты з маркай Віцебскага завода электравымяральных прыбораў. За высокую дакладнасць і надзейнасць гэтыя вырабы ахвотна набываюць 50 краін свету.

Прадпрыемству няма трох дзесяткаў гадоў, але яно выпускае ўжо больш як сто тыпаў самых розных прыбораў. За распрацоўку арыгінальных навінак у дзесятай пяцігодцы 24 інжынеры, тэхнікі і рабочыя ўдастоены медаляў ВДНГ СССР.

**НОВАЯ БУДАЎНІЧАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ**

Галоўнай арганізацыяй па будаўніцтву аб'ектаў камунальнай гаспадаркі стане ў рэспубліцы трэст Белкамунбуд. Гэта вялікая будаўнічая арганізацыя, створаная ў сістэме Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі БССР, будзе ўзводзіць будынкі вытворчага і бытавога прызначэння, жылыя дамы, аранжарэйныя комплексы для вырошчвання кветак, пракладваць водаправод і каналізацыю. Структурныя падраздзяленні трэста, акрамя Мінска, размесцяцца ў Гродна, Полацку, Новаполацку, Жодзіна і многіх іншых буйных гарадах рэспублікі.

### *КАЛЯНДАР*

**230 гадоў назад**

29.8.1749 нар. І. В. Гётэ, нямецкі паэт і мысліцель. Зрабіў вял. уплыў на развіццё ням. і сусв. літаратуры і перадавой думкі.

**40 гадоў назад**

1.9.1939 раніцай войскі фашысцкай Германіі ўварваліся ў Польшчу. Пачалася другая сусветная вайна.

* * * * * * * * * * *

*28.8.1909 пецярбургская „Ніва" пісала: 25 ліпеня адбылася падзея, якая дала пачатак новай эры ў справе паветраплавання: французскі паветраплавацель, Блеріо, пераляцеў на монаплане цераз праліў Па-дэ-калэ. Увесь свой шлях ад Калэ да Дуўра Блеріо праляцеў у працягу 38 мінут, з хуткасцю 75-76 кіламетраў у гадзіну. Цяжка ўявіць адчуванні, перажытыя Блеріо! У самай справе яго „птушка" не з'яўляецца нечым груваскім і велічным. Машына Блеріо не шмат даўжэйшая за звычайны воз, а яе крылы не перавышаюць 2-х метраў у даўжыню (кожнае). Мабыць дажывем да таго часу, калі гэтыя птушкі будуць вырабляцца і распаўсюджвацца з такою ж лёгкасцю, як аўтамабілі, і тады, магчыма, на самай справе, не будзе ні граніц, ні мораў, ні выспаў, ні дарог, а толькі лёгкія і цяжкія машыны тыпу „Calais-Douvres"...*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1432. Nakład 6400 egz. S-2





## МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

# НА РОДНЫХ СЦЕЖКАХ, ДАРОЖКАХ...

У той майскі поўдзень кафэ ў Доме літаратара пуставала. З адчыненых насцеж шкляных дзвярэй даносіўся мяккі пошум фантана з унутранага агародчыка. І наша размова з **Барысам Сачанкам** — вядомым празаікам і сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларускай ССР — была няспешнай. У яго выказваннях адчувалася якраз тая задуменнасць, што ўласціва многім героям яго апавяданняў і аповесцяў. Іменна гэтая павольная, але настойлівая заглыбленасць у чалавечую псіхалогію і прыцягнула ўвагу чытачоў і крытыкаў ужо да першых яго літаратурных спробаў, што паявіліся ў друку ў 1956 годзе. Яму — тады студэнту другога курса аддзялення журналістыкі Беларускага універсітэта — споўнілася якраз дваццаць год жыцця. З таго часу з-пад яго пяра выйшла сама меней дзесяць аповесцяў і раманаў, многа апавяданняў, нарысаў, перакладаў, артыкулаў.

— Вайна... У нашым сяле Вялікі Бор, што ў Хойніцкім раёне на Гомельшчыне, усё было спалена. Маю сям'ю немцы вывезлі ў 1943 годзе. Доўгі час трымалі ў лагеры ў Беластоку. Але ад тваіго горада ніякіх успамінаў, апрача густой загарады з калючага дроту, у мяне не захавалася, і не магло захавацца. Спачатку нас, дзяцей, аддзялілі ад бацькоў. Я страшэнна перажыў гэта. Потым нас вярнулі бацькам, палічыўшы, што дарослым будуць больш выдайна працаваць. Вывезлі нас у глыб Нямеччыны. У бацькі было нас пяць сыноў. Памешчык-баўэр, што нас набыў, бачачы як мы ўсёй сям'ёю завіхаемся і на полі і пры жывёле, цешыўся на такую ладную рабочую сілу. Перажытае тады, лягло ў аснову майго рамана „Чужое неба", што выйшаў з друку гадоў тры таму. З той жа крыніцы і пачарпнуў многае і да свае аповесці „Аксана", якая выйшла пяццю гадамі раней, і шэрагу апавяданняў. Але наймацней заняла мяне ваенная праблематыка ў часе працы над раманам „Вялікі лес". Першая яго кніга паявілася ў сакавіцкім і красавіцкім нумарах „Полымя" за гэты год. Другую кнігу я ўжо заканчваю і спадзяюся, што яна таксама будзе надрукавана ў гэтым жа часопісе. Тут мне хацелася паказаць тыя псіхалагічныя тыпы, якія сфармаваліся пры савецкім ладзе і як вайна ўздзейнічала на іх. Каго акрыліла, а каго прызямліла, каго зрабіла чалавекам, а каго ператварыла ў нелюдзя. У цэнтры рамана сям'я Дарожкаў. Сыны: Іван — спачатку старшыня сельсавета, потым партызан, Піліп — звычайны салдат-франтавік і Косцік, што ідзе на службу паліцаем да гітлераўцаў. Іх бацька, Мікалай Дарожка, быў незадаволены савецкай уладай за тое, што яна абагуліла зямлю. Але ў часе акупацыі ён усведамляе вартасць савецкай улады, яна яму становіцца дарагой і ён змагаецца за яе.

— Але і цяперашні час табе не абыякавы...

— Вядома! Мяне цікавіць цяперашняе жыццё ў горадзе і весцы, звычайных людзей і інтэлігенцыі. Аповесць „Баравое рэха" і мноства апавяданняў я якраз прысвяціў вёсцы. Але паколькі я ўсё ж паходжу з рабочых, то і гэтае асяроддзе мне вельмі блізкае, пра яго якраз мой цыкл апавяданняў „Смалакурня". Мяне вельмі займаюць тыя пераўтварэнні ў псіхалогіі людзей, якія да нядаўняга часу жылі ў вёсцы, а цяпер з'яўляюцца жыхарамі гарадоў, як змяняюцца іх характары, фармуюцца новыя грамадскія пазіцыі. Ну і я не супраць глянуць крытычным вокам на некаторыя з'явы. У аповесці „Не на той вуліцы" я прадставіў графамана, які сам лічыць, што піша арыгінальныя рэчы, а на самай справе за ўсё сваё жыццё ён нічога карыснага не зрабіў, толькі шкодзіў праўдзівым талентам.

— А як ты завандраваў у глыбокую даўніну Беларусі?

— Ведаеш, усё пачалося ад нарысу „Зямля маіх продкаў", які я апублікаваў недзе пятнаццаць год таму. У ім спрабаваў расказаць пра цяперашняе Палессе і пра тое, якое яно было даўней. Заглыбляючыся ў матэрыялы, я адкрыў там аграмадныя залежы, багацці, нікім яшчэ не кранутыя. Мне проста стала сорамна, што я сам не ведаю мінулага роднага краю, не ведаюць яго іншыя, а мы яго ведаць павінны. Тым больш, што колішнія праблемы вельмі блізкія сённяшняму дню. Так паўстаў у мяне цыкл аповесцяў „Палескія былі". Цэнтральнай сярод іх лічу „Англіцкую сталь", яна была надрукавана ў 1966 годзе. Корпаючыся ў архівах і розных дакументах, я сабраў вялікі матэрыял пра Януша Радзівіла, кашталяна віленскага з пачатку XVII стагоддзя, і мяркую пра яго напісаць раман. Ад гэтай глыбы адкалолася частачка, што і ператварылася ў мой „Дыярыуш Мацея Белановіча". Але гэта ўсяго толькі асколак ад глыбы, што яшчэ перада мною.

— Часта выходзяць твае пераклады з іншых літаратур...

— Што ж, мяне вельмі цікавяць творчыя пошукі іншых празаікаў. Пераклаў я на беларускую мову з сербскай апавяданні і аповесці Іва Андрыча, склаў зборнікі апавяданняў і аповесцяў польскіх пісьменнікаў Яраслава Івашкевіча і Яна Гушчы, рускага савецкага пісьменніка Канстанціна Федзіна, украінскага Яўгена Гуцала і некалькі іншых аўтараў.

— Ад чаго я цябе сёння адарваў?

— Цяпер якраз сяджу над аўтарызацыяй перакладаў, што выйдуць на рускай мове мае аповесці „Ваўчыца з Чортавай Ямы" і першай кнігі рамана „Вялікі лес". І зараз жа трэба правіць другую кнігу гэтага рамана. А ў галаве — трэцяя кніга гэтага твора, ну і Януш Радзівіл.

Пра тое, што хвалюе сэрца майго размоўцы, я знайшоў ужо ў зборніку яго аповесцей, апавяданняў і мініяцюр „Ваўчыца з Чортавай Ямы", што выйшаў нядаўна з друку. Адзін з твораў, якім заканчваецца кніга, Б. Сачанка назваў „Дома". Вось ён поўнасцю.

Працяг на стар. 4

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**



## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 26 VIII** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek. Detektywi na wakacjach — odc. III pt. „Zasadzka" — film fab. 10.20 Antena. 10.45 Złoto — polski film fab. 12.20 Dziennik. 12.35 Rolnicze rozmowy. 13.05 Na bezdrożach Amazonii. Historia jednego szczepu. 13.25 Koncert wakacyjny z Gershwinem. 14.25 Teatr Tel. Szelmostwa Lisa Witalisa. 14.50 Piórkiem i węglem. 15.15 Los. Dużego Lot. 15.30 Mistrzostwa Polski Sprzedawców. 16.10 Koncert życzeń. 16.50 Klub Sześciu Kontynentów. 17.40 Piosenka, taniec i... Cepeliada. 18.15 Mistrzostwa świata w kolarstwie. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Jan Krzysztof — odc. 8. 21.15 Festiwal — Sopot 79. 23.35 Finał Pucharu świata w lekkiej atletyce.

**Poniedziałek 27 VIII** — 15.25 Pogram dnia. 15.30 NURT — Nauki polit. Rola państwa w rozwoju życia społecznego, wykł. prof. dr. Adam Łopatka. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kino Zwierzyńca. 17.05 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.35 Mam tu swój dom — polski film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr. Tel. Ewa Bober — Prawo głosu — cz. II pt. „Powrót": 21.35 Dziennik. 21.50 Uzbekistan — film dok.

**Wtorek 28 VIII** — 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Bractwo żelaznej szekli. 16.50 Zanim zostaną dowódcami — rep. 17.10 10 minut — teletur. 17.25 Sonda. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Viki, syn Vikingów — odc. XIII pt. Czarodziejski miecz karzełków (ostatni). 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Kobieta z lancetem — radz. film fab. 21.50 Teatr Małych Form. Andrzej Brzozowski — Godzina myśli. 22.40 Dziennik. 22.55 Kolarskie Mistrzostwa Świata.

**Środa 29 VIII** — 14.55 Program dnia. 15.00 NURT — Mat. kl. V. 15.30 Obiektyw. 15.50 Dziennik. 16.00 Dla dzieci. 16.25 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 16.55 Sport. 18.45 Dom i my. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Bilet powrotny — jug. film fab. 21.55 **X Y Z** — cz. I. 22.05 Dziennik. 22.40 **X Y Z** — cz. II.

**Czwartek 30 VIII** — 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC a w nim m.in. Toomai, druh słoni, odc. pt. „Róg obfitości" film fab. 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Rep. wojsk. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 1[illegible] Siódemka 19.30 Dziennik. 20.15 Pętla na szy[illegible] odc. 4 pt. „Cena namiętności" — film fab. 21.15 Pegaz. 22.00 W minutę po premierze. 22.40 Dziennik. 22.55 Mistrzostwa świata w kolarstwie.

**Piątek 31 VIII** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Pedagogika. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym — pr. dla dzieci. 16.55 Magazyn motor. 17.25 10 minut — teletur. 17.35 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.00 Akcja V — odc. V pt. Pilna przesyłka do Londynu. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Samotni w sojuszu — film dok. 20.50 Wieczór teleturniejów — Potyczki rodzinne. 22.20 Dziennik. 22.35 Spotkanie z Teresą Żylis-Garą.

**Sobota 1 IX** — 14.10 Pogram dnia. 14.15 Radzimy rolnikom. 14.25 Obiektyw. 14.45 Dziennik. 14.55 Orbita. 15.25 Latarnia Czarnoksięska. Wielkie i małe role T. Fijewskiego. 15.55 Film Latarni Czarnoksięskiej. Ojciec; Na przełaj. 17.10 Polska Pieśń Żołnierska. 18.10 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Operacja Himmler — film fab. TP. 22.05 Dziennik. 22.20 Montaż pieśni i piosenek wojskowych z lat II wojny światowej. 23.05 Mistrzostwa świata w kolarstwie.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 24 VIII** — 9.05 Film fab. ser. 18.40 Film fab.

**Sobota 25 VIII** — 12.25 Film fab. 15.35 Film anim. 15.50 W świecie zwierząt. 18.55 Film fab. cz. I. 20.35 cz. II. 21.40 Koncert.

**Niedziela 26 VIII** — 11.00 Sport. 12.30 Film anim. 12.50 Spektakl. 14.55 Klub podróżników. 16.10 Koncert. 17.00 Panorama międzynarodowa. 18.50 Spektakl. 20.35 Koncert. 21.20 Sport.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Klatka — fr. 28—29 VIII. Nie taki zły — fr. 30—31 VIII. Mimino — radz. 1—2.IX.

**Bielsk Podl.** Stawiam na trzynastkę — czes. 27. Skrzydełka czy nóżka — fr. 28—29 VIII. Niezamężna kobieta — USA 30—31 VIII.

**Czeremcha** Dni miłości — meks. 28—29 VIII. Cień lecącego ptaka — czes. 1—2 IX.

**Czyże** Cienie gorącego lata — czes. Narodziny gwiazdy — USA 29 VIII—2 IX.

**Gródek** Próba ognia i wody — pol. 1—2 IX.

**Hajnówka** Rocky — USA 27—29 VIII., Pustynia Tatarów — wł. 30—31 VIII. Trzej świadkowie — czes. 2—3 IX.

**Michałowo** Przełomy Missauri — USA 28—29 VIII. Ostatni film z Legii Cudzoziemskiej — USA 30—31 VIII.

**Mielnik** Siedem nocy w Japonii — ang. 29. Pejzaż horyzontalny — pol. 1—2 IX.

**Milejczyce** Zabójstwo chińskiego maklera — USA. Ciepło — bułg. 29 VIII—2 IX.

**Narew** Wśród nocnej ciszy — pol. Goździki w celofanie — NRD 29 VIII—2 IX.

**Narewka** Biały Mazur — pol. Gęsiorek Maciek — pol. 29 VIII—2 IX.

**Nurzec** Weronika — rum. 21—22 VIII. Ciepło — bułg. 23—24 VIII. Zabójstwo chińskiego maklera — USA 25—26 VIII. Telegram — radz. 28—29 VIII. Szczęście jest tak blisko — rum. 30—31 VIII. Niech się boi — czes. 1—2 IX.

**Orla** Colargol zdobywcą kosmosu — pol. 29 VIII—2 IX.

**Rajsk** Jak się budzi królewny — czes. Nie wychylać się — jug. 29 VIII—2 IX.

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ДЗІЦЯЧЫ ФАЛЬКЛОР

# ГУЛЬНІ

Гульні паяўляюцца на тым этапе ўзросту дзіцяці, калі яно, выйшаўшы за парог уласнай хаты, сустрэлася з іншымі дзецьмі. Выступаюць яны тады, калі ёсць прынамсі двое дзяцей. Не абазначае гэта, што ў адзіночку дзіця не гуляе. Ёсць два спосабы гульняў ўадзіночку. Дзіця, або назірае быт дарослых, іх працу і пераносіць гэта на свет цацак, прыкладна гульні з лялькамі ці іншымі цацкамі, або дапасоўвае зборныя гульні, заступаючыя іншыя, патрэбныя асобы, асобамі створанымі сваім уяўленнем. Проста раз прынімае яно ўдзел у гульні само, а потым заступае сабой іншыя асобы.

Зборныя гульні складаюцца з двух частак — слоўнага тэксту і ўласцівай гульні. Слоўны тэкст з'яўляецца ўступам да гульні. Ён устанаўляе парадак, чаргу, у якой будуць выступаць прынімаючыя ўдзел. Неаднакратна тэкст заступаюць іншыя спосабы ўстанаўлення парадку гульні. Прыкладна, замест вылічанкі, цягнулі жэрабя. Цяжка сёння сказаць, ці кожная гульня мела свае, уласцівыя толькі ёй, тэксты, ці, проста, яны адносіліся да ўсіх гульняў. Найбольш аднак тэкстаў спалучалася са „схованкамі“. Можа таму, што былі яны найбольш папулярнай і распаўсюджанай гульнёй дзяцей. Каб больш поўна паказаць гэты безупынна жывы від дзіцячага фальклору, некалькі частак нашага цыкла прысвецім апісанню самых распаўсюджаных і агульна вядомых дзіцячых гульняў.

**Схованкі.** У залежнасці ад ваколіц гульня гэтая выступала ў некалькіх відах, але істота яе для ўсіх была аднолькавая. Хаваліся і аднаму трэба было шукаць, каб знайсці наступніка на сваё месца і змагчы самому хавацца.

Колькасць асоб у гэтай гульні была неагранічаная. Збіраліся, ставалі ў круг і адзін пачынаў вылічаць, каб выбраць „калюку“ або інакш „пастуха“ — асобу, якая будзе потым шукаць схаваных. Прыкладна, стаяла шасцёра дзяцей і адно, паказваючы пальцам на кожнага па чарзе (улічваючы і сябе), гаварыла:

„Біэг собака чэрэз муост.
Штыры лапы пяты хвуост.“

або:

„Іголочка, ніточка,
Карась — убірайсь“.

ці, калі была няпарная колькасць:

„Котілася торба
З высокого горба
А в туой торбі, хлеб-пшэніця,
З кім ты хочэш
З тым мірыся.“

І другія, аб якіх успаміналі ў папярэдніх частках. Лічылі так, каб на кожнага ўдзельніка прыпадала адно слова. Той, каму выпадала выйсці, пакідаў круг. Апошняму, хто заставаўся, трэба было ісці „спаць“, „калючыць“ ці „пасці“, што, у залежнасці ад мясцовасці, па-рознаму называлі. Гэта значыць, станавіўся ён каля дрэва або будынку, заплюшчваў вочы ды чакаў пакуль схаваюцца. Умоўным знакам да шукання было: або паведамленне з боку схаваўшыхся, з якіх нехта крычаў „ужо“, або „калючачы“ ўголас адлічваў:

„Раз, два, тры, чэтыры, пять
Я іду шукать
Хто нэ сховаўся
Той віноват
Хто коло мэнэ стоіт
Той в огне згорыт“.

І пасля гэтага ішоў шукаць. Усе ведалі, што да гэтага часу трэба паспець схавацца.

Ад гэтага моманту пачынаецца разнавіднасць „схованак“. Або хапіла толькі адшукаць першага схаванага, і на гэтым гульня канчалася і паўтаралася аднова, або трэба было шукаць усіх. Цікавейшай ёсць другая. „Калюка“, убачыўшы схаванага, павінен быў бягом вярнуцца на сваё старое месца (там, дзе „калючыў“) і, стукаючы рукою па сцяне або дрэве, закляпаць знойдзенага: „клю разы...“ І называў імя адшуканага. Калі ўдалося, ігра канчалася, але калі першы дабег знойдзены, трэба было шукаць наступнага. Часта даводзілася калючыць некалькі чэргаў падрад.

Разнавіднасцю схованак з'яўляецца гульня ў так званыя „цэгелкі“. Усё праходзіла так, як і ў першай, з тым толькі, што, замест заклепвання, звальвалі баначку або цаглінку, каля якіх стаяў „калюка“. Калі пры схованках

(Працяг на стар. 4)

Наша галерэя



*Мікалай Грыгарчук. Жывапіс. „Спёка.“ 1977 год.*
*Фота М. Гайдука.*

Гутарка дзядзькі Максіма

## Кусок хлеба

Гэтага дня нічога мне не шанцавала, быццам бы левай нагой устаў я з пасцелі. Абы якая дробязь выводзіла мяне з нерваў. Найперш пасварыўся з Палашкай. Гавару ёй, што паедзем авёс касіць, каб падрыхтавалася падбіраць за касой. А яна мне: „Ці ты з глузду з'ехаў? Цяпер касой касіць? Даволі я за свой век нападбіралася за табою! Ідзі за машынамі, хай з эскаэру прыедуць і саб'юць гэты твой авёс“.

— Але ж сёлета зусім благі авёс у нас удаўся, — гавару жонцы. — Дарэмна толькі машыну па полі ганяць...

— Як сабе хочаш, — абрэзала мая верная сяброўка. — Можаш сам касіць і сам яго падбіраць. Я сёння ў поле не пайду. Заўтра свабодная субота, дзеці можа прыедуць і ўнукаў прывязуць. У хаце трэба прыбраць і што-колеч спячы не зашкодзіць...

— Дзеці, толькі дзеці. Яны ў цябе заўсёды першыя! — узлаваўся я, а Палашка паглядзела на мяне моўчкі, але так паглядзела, што мне холадна раптам зрабілася і захацелася перахрысціцца, каб адагнаць чартоўскую сілу.

— Бяры і хутчэй еш, — сунула яна мне пад нос міску баршчу. — Еш ды хутчэй уцякай к чорту з хаты, каб мне пад рукамі не брэнтаўся!

— Так! Старайся, дабівайся, пакуль зможаш, пакуль сілы яшчэ служаць! А пасля дулю табе пакажуць! Як гэтаму дурному Цімоху...

— Сам ты дурны! — адрэзала Палашка і на паўслове спыніла свае пажаданні ў мой адрас, бо ў дзвярах нашай хаты, быццам па заказу, паявіўся той жа Цімох.

— Маеш табе! Выклікаў ваўка! — прамармытала Палашка, а наш няпрошаны госць спыніўся ля парога, неяк дзіўна перахіліў галаву і стаяў моўчкі.

— Што скажаш, Цімох? — запытаў я, хаця і так ведаў, з чым ён да людзей бегае.

— Нічога, так сабе зайшоў, — загаварыў Цімох. — Хацеў толькі запытаць, ці не было ў вас майго Вані? Зноў нанач дамоў не вярнуўся, а нявестка, каб яе трасца, павячэраць не дала...

Ён глыбока праглынуў сліну і тупым позіркам нацэліўся ў маю міску.

— Сядай, Цімох, — сказала Палашка. — У нас паснедаеш.

— Не магу, даражэнькія, мушу бегчы за сяло, дзе крыж дубовы мы разам з Ванькам паставілі. Там яго знайду. Там ён напэўна прыдзе...

Калі аднак гарачы пах баршчу разнёсся па хаце, Цімох аблізаўся, затым мляснуў языком, як галодны сабака і скочыў да стала. Так, скочыў! І хутка, ненасытна, быццам баючыся, пачаў сёрбаць гарачы боршч.

Палашка паўторна напоўніла яму талерку. А я глядзеў на яго і мне чамусьці адхацелася есці. „Да чаго дажыўся, да чаго дажыўся чалавек!“ — паўтараў я ў думках. Цімох быў крыху старэйшы за мяне, але мы разам хадзілі на гульні і вечарынкі. Высваталі яму жонку з суседняй вёскі. Ціхая была гэта дзяўчына. Першы нарадзіўся сын. Цімох папрасіў Палашку ў кумы і ахрысцілі яго Іванам. Пасля два гады не было нічога. Бабы, як бабы, пачалі ўжо ўголас шаптаць, што Цімохава жонка скідалася і больш радзіць не можа. А яна на трэці год зацяжарыла. І тады здарылася гэтае няшчасце.

Цімох, як і многія сяляне-аднавяскоўцы быў армоўцам. Мы супольна абараняліся ад розных бандзюгаў. На жаль, не ўдалося нам абараніць вёску. Напалі на нас удзень, у рабочы час, калі мы амаль усе былі ў полі. Цімохаў бацька ледзь паспеў выстраліць у паветра. І яго тут жа палажылі, а жонку і нявестку, значыць Цімохаву жонку, збілі да непрытомнасці. Затаўклі б мо-

(Працяг на стар. 4)

БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-79



*Вакальны калектыў з Беластока. На сёлетнім аглядзе заняў другое месца ў катэгорыі сучаснай песні.*
*Фота Я. Целушэцкага.*

У маёй званіцы

## ПААБЕДАЛІ

— Ад дванаццаці будуць абеды, — адказала буфетчыца на пытанне „Што можна з'есці?“

Усяго толькі дзесяць хвілін. І пачалі душою дзякаваць арлянскаму бару за хуткі канец посту нашых жалудкаў. Заняўшы першы свабодны столік, накінуліся на меню: катлетка, адбіўная катлета, тушаныя рабрынкі, галёнка, гуляш, тушаная капуста з мясам. Хай будзе адбіўная. Але афіцыянтка пакруціла адмоўна галавою: няма.

Дзіўна, толькі што пачалі выдаваць і няма.

— Дык можа галёнка, фасолевы суп і нечага папіць.

Найперш падалі аранжаду. Разлілі ў лопнутыя шклянкі, асцярожна, каб часам не разляцеліся, і пачалі піць салодка-кіславатую вадкасць. Ды раптам, бачу — сябра дыскрэтна, быццам бы гуляючы стаяўшым на стале свежым букецікам вяргінняў, адшчыкне пальцамі лісточак і пад стол схавае, адшчыкне і схавае.

— Ты што гэта? — гляджу на яго са здзіўленнем.

— Ну, бачыш, — і адвярнуў букецік другім бокам.

Усё стала ясна. Пад прыгожай чырвонай кветкай вяргіні звісаў неадшчыкнуты яшчэ цёмна-зялёны лісток, з якога нейкая птушка зрабіла сабе прыбіральню.

— Фасолевы суп учарашні і яшчэ не нагрэўся, — заявіла афіцыянтка, ставячы перад намі агурочны.

Пацяснуўшы плячыма, схапілі лыжкі і давай ганяць па паўмісках бульбіны, пацяшаючы сябе надзеяй, што неўзабаве паявіцца на стале цёплая араматная галёнка. Сябра мой нават пачаў голасна прыпамінаць, калі то ён і дзе апошні раз галёнку еў.

— Ты ведаеш, там ёсць такое мяса, такое са спецыфічным смакам, што як...

— Але галёнка толькі адна, — пачуўся над столікам знаёмы голас нашай афіцыянткі.

Злоўленая ўрэшце бульбіна плюснула, быццам жывая, назад у суп. Глянуў на суседа: сядзеў дзіцяча пасмутнеўшы, быццам яму хацелі адабраць самае дарагое.

— Тады мне дайце катлету, — пагадзіўся я.

Ямо. Адкалупнуў кавалачак катлеткі, палажыў у рот, і ў роце халадком павеяла. Марожанае? Сяджу з выпханымі шчокамі, чакаю пакуль катлетка крыху падагрэецца, ды гляджу на сябра, які совае вілкаю галёнку і настраміць ніяк не можа. Ён яе пераварочвае, то зноў бокам кладзе, а тая, як неадольны рыцар, ляжыць думна настабурчыўшы поўсць. Дык давай ён поўсць абрываць. Але тая, слізкая ад тлушчу, толькі знойдзецца пад нажом, пакаўзнецца і зноў тырчыць, быццам бы насмешкі над галодным чалавекам рабіла. Глянуў мой сусед па баках, ці ніхто ўвагі не звяртае, узяў галёнку пальчыкамі ды паставіў насторч на талерцы, нібы палена на пяньку і — соў вілкаю зверху. А тая, як зачараваная, уся ў косць змянілася. Ну і мастакі повары, усяроўна што ў казцы.

Праглынуўшы адагрэты ў роце кавалачак катлеты, паказваю афіцыянтцы талерку і гавару, што катлеціна халодная.

— Халодная? — засмяялася тая, нібы пацяшальны анегдот пачула і, схапіўшы маю талерку з пакалечанай катлеткай, пайшла да акенца.

Пасля доўгіх перагавораў з выдаўшчыцай, прынесла другую, падліўкай зверху палітую.

— Можа гэта будзе цёплая.

А ў ёй цяпла, што ад падліўкі гэтай. Да таго яшчэ і бульба выхаланула.

Адно добра, што на расплату чакаць не трэба. Не паспелі і вілак адлажыць, як афіцыянтка ўжо тут.

— Ну і галёнка пану трапіла, — зарагатала афіцыянтка, глянуўшы на сябраву талерку, дзе думна, выпяўшы ўгору поўсць, ляжала зменёная ў косць галёнка.

— 57, — палажыла перад намі рахунак.

Расплаціўшыся, кінуліся мы ў разважанні: што б гэта было, каб, прыкладна, душаныя рабрынкі ўзялі, або капусту з мясам? Цікава, што тады прынеслі б? У кожным выпадку раю кіраўніцтву бару ў Орлі, каб у меню, там, дзе канчаецца пералік страў, напісалі: „Спецыяльнасць сталовай — усё падаем у зменёным выглядзе“.

Заказаў адно і мазгуй, што прынясуць. Цікава, га?

**М. Шаховіч**

# Слядамі апошняй вайны

1 верасня спаўняецца сорак год, калі полымя вайны ахапіла польскую дзяржаву, якая першая сярод еўрапейскіх краін сказала „не“ фашысцкім захопнікам. У змаганні з гітлераўскай агрэсіяй актыўна ўдзельнічалі разам з палякамі і беларусы. Многа нашых родзічаў аддало сваё жыццё ў абароне ўсеагульных правоў чалавека — быць вольнымі.

У многіх кутках польскай краіны знаходзяцца магілы, на якіх можна сустрэць і прозвішчы беларусаў. Знаходзяцца яны і на тэрыторыі Беласточчыны.

Адна магіла захоўвае астанкі хлопца з беларускай вёскі Варанцы, што на Глыбоччыне. Хлопец гэты, якога ў роднай вёсцы называлі Болюсь, меў братоў Мікудуся і Стэфана, ды сястру Малгосю. Бацька Альбін карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод жыхароў вёскі, быў добрым гаспадаром, хоць зямлі не меў многа. Любіў дзяліцца з суседзямі чым мог.

Шанавалі сябры і сяброўкі Болюся. Закончыў 6 класаў пачатковай школы ў Мосары. Вучыцца далей тагачасныя ўмовы сям'і не дазвалялі. Трэба было зарабляць, каб сям'і хапала хлеба. У 1937 годзе пакліканы быў у армію. Служыў у палку конных стралкоў, які знаходзіўся ў Ваўкавыску. Быў узорным жаўнерам, у арміі закончыў пачатковую школу і разам падафіцэрскую. У палку быў назначаны інструктарам падафіцэрскай школы. На такой пасадзе застала яго вайна. Весткі аб жыцці на гэтым для яго сям'і і для аўтара гэтых радкоў скончыліся.

У познюю восень 1939 г. прышла ў вёску Варанцы трагічная вестка. Сябра яго з суседняй вёскі, а цяперашні жыхар вёскі Бярвякі той жа Глыбоччыны — Жаўняронак Пётр, вяртаючыся з фронту дамоў, сустрэў шэфа швадрону (так называлася рота войск у кавалерыі), які расказаў яму аб сваім сябры, інструктары падафіцэрскай школы.

Было гэта 17 верасня, нямецкія танкі гналіся ў напрамку Белавежскай пушчы. Па дарозе гарэлі вёскі, жыхары якіх размаўлялі такой жа мовай, як і жыхары вёскі Варанцы. Падафіцэр адной процітанкавай гарматы (палкі конных стралкоў мелі на ўзбраенні гэты від зброі) быў забіты. І ў тую хвіліну заўважыў гэта Болюсь, падскочыў да гарматы і пачаў весці з яе агонь. І тады сталася. Быў цяжка паранены. У ціхай пушчанскай вёсцы Буды закончыў жыццё.

Удзячнае польскае грамадства змагару за незалежнасць славянскіх народаў Баляславу Бервячонку паставіла помнік.

У сучасны момант з сям'і Баляслава ў жывых асталіся брат Стэфан і сястра Малгося, жывуць яны і далей у сваёй роднай беларускай вёсцы Варанцы.

**Францішак Берніковіч**

## Ці ведаеце, што...

...у нашай краіне індывідуальныя сяляне апрацоўваюць 76,6% усіх сельскагаспадарчых угоддзяў і даюць каля 72% усёй таварнай прадукцыі.

(Працяг са стар. 1)

# ЗАЎСЁДЫ НА ВАРЦЕ

вялічваецца колькасць выпадкаў з прычыны механізацыі сельскай гаспадаркі і хуткага роста матарызацыі.

Аляксандр Малец шмат часу прысвячае грамадскай дзейнасці. Быў ён і сакратаром падставовай партыйнай арганізацыі і членам КП, і сакратаром прапаганды гміннага камітэта ПАРП. А членам партыі ён ад 1947 года. Неабходна ўспомніць і аб тым, што некалькі кадэнцыяў быў ён радным і членам прэзідыума ГРН. Цяпер ён з'яўляецца прэзасам гміннага праўлення ЗБоВіД, а таксама членам ваяводскай камісіі аховы здароўя.

За сваю прафесіянальную і грамадскую працу Аляксандр Малец узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі, у тым ліку і „Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы“.

**Міхась Хмялеўскі**

## ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ой, на дварэ дробны дожджык, імгляно;*
*чаму, Манечко, твае матулі нівідно?*
*Ой, перэйдзі хату, сені перэйдзі,*
*у новуй каморы свае матулі паглядзі.*
*— Я перэйшла хату, сені перэйшла,*
*у новуй каморы свае матулі ні знайшла,*
*у новуй каморы свае матулі ні знайшла.*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 г. нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у студзені 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.



**У нашым аб'ектыве.** *Новы рэстаран у Нараўцы.*

*Фота Я. Целушэцкага.*

## Разведка гаспадарнасці

### НЕБЯСПЕКА НА ДАРОГАХ

Глыбокія выбоіны на дарогах — вялікая небяспека для вадзіцеляў усіх відаў сродкаў транспарту. Ёсць такія калдобіны ля масткоў у вёсках: Арэшкава ў Гайнаўскай гміне і Шэрні ў Арлянскай гміне. Асабліва небяспечная ўхабіна ў Шэрнях. Гэта амаль яма. Для дабра справы хапіла б прывезці фуру пяску. Ці няма на гэта рады? Што на гэта солтысы спамянутых вёсак ды і гмінныя ўпраўленні?

**Іван Непаседа**

Шкада толькі, што працы над гэтым дакументам зацягнуліся так доўга і ён становіцца даступным нашым настаўнікам калі не пасля пачатку новага школьнага года, то зусім перад першым званком. Трэба спадзявацца, што Беластоцкая куратория асветы і выхавання прыкладзе ўсе намаганні, каб як мага хутчэй усебакова пазнаёміць навучаючых у другім класе настаўнікаў беларускай мовы з працай па новай праграме і будзе весці такую працу загадзёў — і то на некалькі месяцаў перад пачаткам новага школьнага года — з настаўнікамі наступных класаў. Гэта толькі ўсяго адна з многіх неадкладных справаў, якія чакаюць на выкананне.

Найважнейшым жа заданнем, якое адносіцца да ўсіх нас дарослых: настаўнікаў, аўтараў падручнікаў і дапаможных выданняў, бібліятэкараў, шырокага кола актыву Беларускага грамадска-культурнага таварыства і перш наперш бацькоў, якіх дзеці пачалі або пачнуць вучыцца роднай мове па новай праграме — гэта спрыяць і дапамагаць ажыццяўленню кожнага яе ўказання. Яна датычыць найважнейшага для ўсіх нас — адукацыі маладога пакалення беларусаў у Народнай Польшчы.

**Мікалай Гайдук**

## Запіскі натураліста

# Назіранні глеб і расліннасці

30 ліпеня 1979 г. Тэрыторыя: Бельск-Аўгустова. Пасля цёплага ды сухога чэрвеня, прыйшоў дажджлівы і халаднаваты ліпень. Цягне свежы вецер. Пах скошанага жыта на палях. Усюды копы, копы... Рабіна, глог (мал. 1) — чырванеюць.

Захад неба завалаклі алавяныя хмары. Пацямнела. Усё замірае. Адчуваецца дыханне восені. На душы цяжка. Усё дачаснае... Адыходзіць і ніколі не вяртаецца.

А вось і дзікія расліны — пустазелле. Іх лісцё таксама жаўцее. Пачатак адмірання. Кароткі век — канчаецца. Паспявае насенне. З яго вырастуць гэткія ж, ды не тыя самыя расліны. Ячмень, азімая пшаніца — паспелі. Пачалі касіць. Авёс стракаты — частка раслін пажаўцела. Бульба і лён — адцвілі. Капаю ямку жалезнячком. Глеба глыбока прамокла. На паверхні грунту вельмі рэдка сустракаюцца бугаркі з экстрэментаў дажджавых чарвякоў. Мала іх засталося. Сляды жыццедзейнасці — дробныя норы, — гэта залог ураджайнасці палёў. Хімізацыя вынішчае дажджавікоў.

Пасля кароткага дажджу неба праяснела. Пайшоў у сяло Аўгустова. Сустрэўся з вядомым гаспадаром — вопытнікам палёў — Кардзюкевічам Рыгорам, ды з ветэранам вайны — Манаховічам Барысам. Цудоўныя людзі! Усе былі заняты сваімі жыццёвымі турботамі. Паглядзеў на іх сады, зрабіў запіскі. Вішняў ужо няма. Шмат з'елі шпакі. Абаронцы саду страцілі свой натуральны корм. Парушэнне раўнавагі ў прыродзе. Слівы, яблыні, грушы — пладаносяць слабавата.

Неба з захаду зноў пачалі зацягаць кучавыя воблакі. Набліжаўся дождж. Я паспяшаў на сваёй „Міфі“ ў Бельск.




**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**

## Адгалоскі

### УСПОМНІЎ І Я

Чытаючы лісты Т. Кірылава, рашыў і я выказацца ў некалькіх словах. Першае — аб дуэце „Кляпа“, які перамог на фестывалі ў Зялёнай Гуры.

Як толькі яны на тым фестывалі заспявалі „Бабу Еўку“, то як бы мне хто маслам душу мазаў! А што ж гаварыць пра тых беларусаў, якія жывуць рассыпаныя ў розных асяроддзях, а песні і мову беларускую толькі ў думках маюць. І тут хачу паўтарыць словы Кірылава: дзякуй вам, Лявон Кшыцкі і Яўген Сянкевіч за ваша цудоўнае спяванне, не ведаю, ці вас больш пачуем. Не забывайце Беласточчыны.

Цяпер яшчэ просьба да рэдакцыі. Я сам у маладосці спяваў гэту песню, ды забыў дзве апошнія звароткі. Калі можаце, надрукуйце „Бабу Еўку“ ў „Ніўцы“.

Што датычыць другога лісту Т. Кірылава, асабліва прапановы сарганізаваць „учасы пад грушай“ — гэта добрая думка. Я лічу, што БГКТ павінна падсунуць гэтую думку ПТТК ці іншай установе ад турыстыкі. Выбраць некалькі ладных беларускіх мясцовасцей, усё падрыхтаваць, а потым некалькі разоў даць аб'яву ў „Ніве“, ці ў іншых газетах. Я перакананы, што знойдзецца многа ахвотных.

Некаторыя чытачы гавораць: якая розніца, дзе жывеш, абы толькі добра было, то можна жыць усюды і ніякай цяготы не будзеш адчуваць. Але так гавораць тыя, хто нідзе не выязджаў. Або выязджалі на нейкі час і вярталіся дамоў. Я зусім не здзіўляюся Тамашу Кірылаву ці Дзмітру Слізеню і іншым, што іх так цягне да роднага. Я сам тое перажываў. У 1946 годзе пасяліўся я ў Шклярскай Парэмбе каля Еленяй Гуры. Меў добрыя ўмовы да жыцця, але, пражыўшы два гады, прыехаў з сям'ёй у Гайнаўку, дзе, не маючы ні кала, ні двара, але ў сваім асяроддзі, распачаў жыць нанава.

**Э. Вайсковіч**

### Я БАЧЫЎ

*Мы нядаўна апублікавалі артыкул пра лёс аднаго нашага чытача з вёскі Завыкі, які быў удзельнікам змаганняў на Монтэ Касіна. Ніжэй прыводзім ліст яго, у якім ён успамінае адзін страшны факт з таго перыяду.*

Будучы на італьянскім фронце, мне давялося бачыць сваімі вачыма людзей, якія прайшлі нямецкую катоўню. А было гэта так. Падцягнулі мы гарматы на досвітку, уставілі іх паблізу нейкага хутара. Аказалася, што адзін будынак гэтага хутара разбураны, а з руінаў выходзіць яшчэ дым. Ажно аднекуль выйшаў і гаспадар гэтага хутара, і расказвае нам, што ў гэтым будынку быў нямецкі магазін. А нямецкія самаходы пад'язджалі сюды толькі начамі і да дня тыя немцы нават сляды па самаходах замяталі. А вось пару дзён назад, чамусьці не замялі слядоў. — Калі толькі ўзышло сонейка, наляцелі вашы самалёты, — гаварыў гаспадар, — і адразу на гэты магазін кінулі бомбу, магазін загарэўся і дым яшчэ ідзе.

Мы пачалі смяяцца, што маўляў добра дагадзілі фрыцам. А італьянец тады спыняе нас: дык яны вам таксама дагадзілі. І паказвае на калодзеж, і кажа, што ў гэты калодзеж немцы ўкінулі двух нашых салдат.

Наша начальства паведаміла аб гэтым сапёраў, якія адразу прыехалі і гэтых салдат з калодзежа асталі. Аказалася: польскі паручнік з шафёрам. Яны ехалі ноччу вілісам, збіліся з дарогі і папалі ў рукі немцам. І вось што немцы з імі зрабілі. Прывялі да гэтага хутара, тут быў нейкі нямецкі начальнік, павыколвалі ім вочы, павырэзвалі языкі. Па ўсяму целу былі адны раны.

Калі іх вынялі з таго калодзежа, яны ляжалі так цэлы дзень, бо прыязджала начальства англійскае і амерыканскае, а таксама розныя заграцічныя карэспандэнты глядзець на гэта. За галовы браліся, гледзячы на такое злачынства. Гаварылі: вось як чалавек патрапіць здзекавацца над другім чалавекам. На гэта і мне давялося глядзець сваімі вачыма. І мароз хадзіў па ўсяму целу.

**М. Аўсейчук**

 

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка. Сорамна мне, бо я пажылая жанчына, мне 43 гады, маю ўжо дарослыя дзеці — двух сыноў, і зацяжарыла. Вельмі перажываю, нервуюся. Думала пайсці да лекара і перарваць цяжарнасць. Але не хапае адвагі, ды муж катэгарычна забараняе мне гэта рабіць. Кажа, што яшчэ дзіця выгадуем, ды пасля такога перапынку можа нарадзіцца дачушка, аб якой ён увесь час марыў. Яшчэ і ўстыд ад людзей, а жывем мы на вёсцы, дык без плётак напэўна не абыдзецца. Ну і як успрымуць гэта мае сыны? Ды непакоюся, ці ў такіх гадах, пасля доўгага перапынку, не будзе цяжкасцей урадзіць дзіця? Ад усяго гэтага аж галава мне ўжо лопае. Таму і пішу да цябе, і прашу тваёй дапамогі.

Ірэна з Бельшчыны

Ірэна! Непатрэбна так хвалюешся, нервуешся. Цяжарнай жанчыне гэта шкодна. Ці ж такая ўжо бяда? У тваіх гадах жанчына яшчэ поўнасцю спраўная, можа нарадзіць, і выхаваць паспее. А што дзеці дарослыя — нічога, будзеш мець дапамогу. Час ад часу папільнуюць малыша. А, пабачыш, як любіць будуць. Маленькае дзіця, калі ўсе дарослыя — гэта радасць і ўцеха ў хаце. А каб яшчэ дзяўчынка. А на суседскія гаворкі не зварочвай увагі. Людзі любяць часаць языкі, абы толькі ўдалося іх за штосьці зачапіць, але не сабакі ж яны, не ўкусяць. Пытаеш, ці не будзе цяжка радзіць у такіх гадах. У тваіх гадах было б цяжка радзіць, каб было гэта дзіця першае, а паколькі ты ўжо два разы радзіла, няма падстаў баяцца. Але да лекара трэба пайсці абавязкова. Гэта неабходна пры кожнай цяжарнасці, нягледзячы на гады маці. Жадаю табе здаровага прыбытку.

**Сэрцайка**

## Цікавінка

Характар цыклічнасці наступлення ледавікоў на зямную сушу і звязаных з гэтым з'яў устанавілі вучоныя Інстытута геалогіі Акадэміі навук Эстонскай ССР. Ім удалося прасачыць змяненне клімату Зямлі за апошнія 40 тысяч гадоў. Іменна праз такі прамежак часу наступаюць ледавіковыя перыяды. Як паказваюць даследаванні, цяпер наша планета знаходзіцца паміж двума ледавіковымі перыядамі.

Расказалі аб гэтым ізатопы кіслароду. Ад тэмпературы навакольнага асяроддзя ў момант, калі ўтварылася дажджавая кропля або сняжынка, залежаць суадносіны змешчаных у іх лёгкіх і цяжкіх ізатопаў. Прымяняючы радыёактыўныя ізатопы, можна ўстанавіць узрост таго або іншага слою ледавіка. У ходзе даследаванняў былі ўстаноўлены нават невялікія змяненні клімату. У XX стагоддзі, напрыклад, самы цёплы перыяд прыпадаў на трыццатыя гады.

## Консультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Участак абшарам 0,6 га быў у час рэгулявання ўласнасці сельскіх гаспадарак прыдзелены на супольную ўласнасць А. і В. А. апрача гэтага ўчастка мае сваю гаспадарку каля 5 га. В. сельскай гаспадаркай не займаецца, пражывае ў горадзе, а на часці супольнага ўчастка садзіць бульбу і іншую агародніну. Ён унёс у суд справу аб падзеле ўчастка і пачаў на ім будаваць хату, якая мае яму служыць летняй парой за дачу. На прапанову А. суд забараняў яму будавацца, аднак ён, нягледзячы на гэтую забарону, будаваў далей. Ці можа суд падзяліць участак паміж А. і В., а калі прызнае яе А., то ці будзе ён абавязаны сплачваць за непатрэбную яму і пастаўленую нелегальна хату?

АДКАЗ: Няма праўнай перашкоды да падзелу гаспадаркі абшарам 0,6 га. Правілы, якія абмяжоўваюць падзел сялянскіх гаспадарак, пры гэткіх гаспадарках не абавязваюць. Аднак пры падзеле суд павінен ацаніць, ці гэткі падзел служыць грамадскай справе, а перш за ўсё рацыянальнаму выкарыстанню зямлі, і з гэтага пункту гледжання можа прызнаць, што найбольш мэтазгодна прыдзяліць зямлю А., які займаецца выключна земляробствам. У гэткім выпадку яму будзе прыслугоўваць выбар: або сплаціць В. за яго хату, або патрабаваць ад яго, каб хату забраў, а зямлю прывёў да такога стану, у якім яна знаходзілася перад будовай. Сам факт, што В. пабудаваў хату, не можа мець уплыву на ацэнку суда адносна спосабу падзелу ўчастка, або прызнання яго аднаму з супольных уласнікаў.

## Як цябе бачаць, так цябе пішуць

### СВАІМІ РУКАМІ

Як вядома, наймаднейшыя з вязаных рэчаў — гэта тыя, якія зробім сваімі рукамі. На сённяшнім здымку вы бачыце вельмі прыгожую пляжную блузку, якую можа зрабіць нават пачынаючы. Падыходзяць тут розныя ўзоры. Зразумела, што такую блузку можна насіць не толькі на пляжы, але і ў горадзе, змяніўшы ў адпаведным моманце кароткія шорты на доўгія штаны ці простую спартыўную спаднічку. Да гэтага строю добра падыходзіць вялікая пакоўная сумка на плячо. На нагах у дзяўчыны модныя тэнісоўкі, модныя да такой ступені, што на захадзе робяць нават вячэрнія туфлі такога фасону. Практычная таксама шапачка-дашок, якая засланяе твар дзяўчыны ад сонца.

**Сяброўка**




## Этнаграфічнае акенца



*Прыгожа выглядае ў карункавым аздабленні хата перадавога гаспадара Васіля Франкоўскага з Чыжоў.*

*Фота Я. Целушэцкага.*

## Вер-не-вер

Дарагі Астроне! Сніцца мне, быццам я была дома, на вёсцы (я ўжо жыву ў Бельску 10 гадоў). Сама не ведаю, адкуль у мяне ў руцэ адрэзанае сэрца сына, які загінуў на вайне ў 1944 г. Другі сын мой стаіць каля мяне. Ён абыякавы (жыве). Сэрца чырвонае ад крыві, тоўстае. Я яго мыю ў вадзе. Пасля сніцца мне, што мой калаўрот стаіць у кутку, засыпаны снегам (я ж даўно не прала). Я падумала, што пасля яго ачышчу. Прашу як найхутчэй адгадаць мой сон. Буду табе, Астроне, вельмі ўдзячна.

Насця з Бельска

**Насця з Бельска!** Не спяшайся і не непакойся занадта. Сніць нябожчыка — гэта добра. І хоць твой сын і загінуў на вайне ў 1944 годзе, у думках тваіх ён жыве пастаянна. Нічога дзіўнага — ты ж маці. Усё ж такі можаш мець невялікія клопаты (а ўсё звязана з тваімі пачуццямі, бо трымала ў руцэ і абмыва сэрца сына). Можа хтосьці зробіць нешта не так, як ты б хацела, і будзеш нервавацца... Справа, аднак, не будзе мець для цябе непрыемнага канца. Аб гэтым сведчыць і тое, што твой калаўрот быў засыпаны снегам, а снег, як вядома, абазначае прыбытак, добрае здароўе.

**Астрон**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




З-пад абломкаў відаць была каменная, упрыгожаная багатай узорчатай мазаікай падлога. Вакол былі раскіданы кіркі і рыдлёўкі, паўразбітыя скрыні і гнілыя вяроўкі Збоку з-пад цэглы тырчэла мармуровая скульптура, а каля яе — старадаўняе крэсла. Сержант, асвятліўшы месца ліхтарыкам, заўважыў на поручнях крэсла металічную таблічку. Гэта быў нумар, а пад ім надпіс па-руску; „Музей — Пушкіна — СССР".

Сержант нават свіснуў ад здзіўлення і пасвяціў ліхтарыкам на фігуру нейкага амура. На пастаменце таксама былі нумар і такі ж надпіс. Ён накіраваў ліхтарык на жанчыну. Гэта была стройная прыгожая бландзінка з правільнымі рысамі твару. На выгляд ёй было не больш чым трыццаць.

— Прозвішча? — строга спытаў сержант.

— Гертруда Брант, — адказала яна спакойна. — Я ўсё...

— Гавары, што ты тут рабіла? Што гэта былі за людзі? Дзе яны жывуць? — перапыніў ён, засыпаўшы яе пытаннямі.

— Я ўсё раскажу, — адказала яна спакойна. — Я вярталася дадому. Было позна ўжо. Каб скараціць сабе шлях, я пайшла нацянькі па Штайндамштрасэ. Праходзячы міма, я пачула галасы і заўважыла, што хтосьці корпаецца ў руінах. Я спынілася, каб даведацца, у чым справа. Падумала, магчыма, яны золата шукаюць або скарб які, а ўбачыла скульптуры і фігуркі. Гэта мяне яшчэ больш насцярожыла, паколькі я, пан камандзір, — яна звярнулася з чароўнай усмешкай да сержанта, — працую ва ўпраўленні музея ў пана прафесара Брусава. Прыбіральшчыцай, — дадала яна з гордасцю.

— І што далей? — падазрона запытаў сержант.

— Я якраз збіралася загаварыць з імі, калі вы падышлі і пачалася гэта страляніна. Я пабегла, бо не ведала, хто супраць каго. Спалохалася, а больш я нічога не ведаю.

* ✲ *

Прафесар Брусаў сядзеў у сваім кабінеце з маёрам Волкавым, былым танкістам, з якім ён даўно быў знаёмы. Мінула два тыдні з той памятнай жнівеньскай ночы, калі патруль сержанта Чайкоўскага спалохаў грабежнікаў паблізу старой царквы Штайндам на аднайменнай вуліцы, а следства не скранулася з месца ні на крок. Гертруда Брант сапраўды працавала ў музеі, і расказаная ёю гісторыя выглядала зусім праўдападобнай. Давялося яе выпусціць. Яна па-ранейшаму прыходзіла прыбіраць у музейных памяшканнях, добрасумленная і старанная, ціхая і ўслужлівая. Устаноўлены за ёю тайны нагляд не прынёс ніякіх вынікаў, якія кінулі б цень на яе паказанні.

— Так, усё гэта вельмі і вельмі дзіўна, — гаварыў задуменна прафесар Брусаў. — Мяркуючы па ўсім, яны працавалі там не адну ноч, а салдаты з патруля перашкодзілі ім, на жаль, тады, калі фактычна справа была ўжо зроблена і ім заставалася толькі замесці сляды. Відаць, для іх было вельмі важна, каб пры расчыстцы вуліцы рускія калекцыі не трапілі да нас. Невядома, навошта яны былі там схаваны або пакінуты.

— А ў мяне так і свярбіць язык распытаць пра ўсё вашага любімчыка доктара Родэ, але не маю права парушыць загад і пакідаю гэта вам, — азваўся маёр Волкаў. — Раю, аднак, не забываць, што тут дзейнічае вервольф, а Юрый Колеў загінуў пры невядомых абставінах і хутчэй за ўсё тут, у Кенігсбергу. Гатовы даць галаву на адсячэнне, што гэты Франц Белоф дзейнічае па ўказцы пакінутага тут падпалкоўніка СС Георга Рынгеля, а скрыні з кансервамі былі ні што іншае, як калекцыі. Гэтыя начныя лазутчыкі былі вельмі добра праінфармаваны аб месцы, дзе схаваны калекцыі. Выкрасці іх маглі толькі тыя, хто іх там схаваў. Доктар Родэ, напэўна, ведае нямала. Ну што ж, загад ёсць загад, і таму пакідаю доктара Родэ ў вашым распараджэнні. Рабіце, як хочаце.

— Я не люблю паспешлівасці. Доктар Родэ — сумленны чалавек. Магчыма, крыху ўзбаламучаны, але бяспечны. Я не веру, каб ён дзейнічаў на шкоду нам, а тым больш у тое, што ён замешан у смерці Колева, — абараняў Брусаў доктара Родэ.

*(Працяг будзе)*



 

Імпартгумар

# ПАВУК

Мікалаю Пятровічу адчыніў хлопчык гадоў сямі.
— Вы да таты на дзень нараджэння? — баязліва спытаўся ён.
— Так, — усміхнуўся Мікалай Пятровіч і ласкава пагладзіў хлопчыка па галаве.
— Тата з мамай пайшлі да суседзяў па чаркі, праходзьце, калі ласка, да гасцей, — ветліва прапанаваў хлопчык.
— Дзякуй, — адказаў Мікалай Пятровіч. — Цябе як завуць?
— Мяне — Антонам. А вы татаў дырэктар?
— Ты адкуль ведаеш?
— Тата пра вас шмат гаворыць. Я нават вашу мянушку ведаю.
— Скажы, — пацікавіўся Мікалай Пятровіч.
— Сыч, — адказаў Антон і самазадаволена ўсміхнуўся.
Мікалай Пятровіч густа пачырванеў і надзьмуўся.
— Сыч — гэта парода сабак ці катоў, — пацікавіўся Антон.
— Не ведаю, — хрыпата сказаў дырэктар, адчуваючы, як у яго пачынае кружыцца галава і дрыжаць рукі.
— Яшчэ я чуў ад таты, што ў вас манія вялікасці і дрэнны характар. Што азначае — манія, скажыце, калі ласка?
Дырэктар сумна пагледзеў на дзверы, збіраючыся пайсці.
— Гэта праўда, што з вамі немагчыма працаваць і людзі ў аддзелах мяняюцца, як фігуры ў калейдаскопе? — працягваў Антон.
Мікалай Пятровіч паставіў на крэсла падарунак — трохлітровы электрычны самавар і падаўся да дзвярэй. Але ў гэты час яны адчыніліся і на парозе з'явіліся гаспадары: Павел Цімафеевіч Страхаў з жонкай Аленай Мацвееўнай. Убачыўшы дырэктара, Павел Цімафеевіч шырока ўсміхнуўся, тэатральна расставіў рукі і сказаў:
— Мікалай Пятровіч, дарагі, прабачце, калі ласка! На мінуту адышлі і самага жаданага госця прагледзелі... З жонкай маёй вы знаёмы, а гэта мой сын — Антон. У гонар пісьменніка Чэхава назвалі. Антон Паўлавіч Страхаў. Круглы выдатнік і разважае. ведаеце, не па гадах.
— Мы пазнаёміліся ўжо, разумны хлопчык, — з металічным дрыжаннем у голасе сказаў дырэктар і збялеў так моцна, што Павел Цімафеевіч спытаўся спалохана: „Што з вамі, Мікалай Пятровіч?“
— Нічога, глупства, матор крыху. Зараз пройдзе, — сказаў дырэктар і грузна апусціўся ў крэсла з самаварам. Самавар з гулкім шумам упаў на падлогу.
Калі праз гадзіну госці расселіся і прыціхлі, дырэктар ужо крыху апрытомнеў, хаця сядзеў у куце адасоблена, змрочны, як пахмурны дзень. Нарэшце ён устаў і глухім, хрыпатым голасам сказаў кароткую хвалебную прамову ў гонар імянінніка. Усхваляваны Павел Цімафеевіч звярнуўся са словамі ўдзячнасці да дырэктара. Ён назваў яго таленавітым спецыялістам, вопытным кіраўніком, цудоўным арганізатарам.
Калі апладысменты ацíхлі, Антон падышоў да бацькі і сказаў так гучна, што ўсе пачулі:
— Не разумею я вас, дарослых: вось зараз ты хваліў дырэктара, а яшчэ ж учора гаварыў маці: „Ён павук, кроў з мяне смокча“.

**Б. Рабенькі.**

## АХВОТА ПАХМЯЛІЦЦА

Устаў раніцай Кастусь і пытае ў жонкі:
— Маланне, не ведаеш, учора ніхто не нарадзіўся, не памёр, нікому не будуць імянін спраўляць?
— А чаму гэта ты пачаў з гэтага? — здзіўлена спытала жонка.
— Ды нешта дужа галава на пахмелле баліць, — адказаў Кастусь.



— Я — Вовачка, — гаварыў Воўк, трапіўшы на псарню.

# НІЎКА



— Неадкладна злазь!



— Хто забіў гол?

## ШТО БЛІЖЭЙ?

— Што бліжэйшае, — спытаў Міколка свайго старэйшага брата, — месяц ці Афрыка?
— Месяц, — упэўнена адказаў той. — Месяц мы можам убачыць, а Афрыку — не.

## З БЛАКНОТА ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

— Доктар, гэта праўда, што сон прадаўжае жыццё?
— Вядома, пакуль вы не заснеце за рулём.

## З „Весніка Задрыпоніі“

## АБ'ЯВА

Сёння ў кінатэатры „Смарагд“ замежны фільм. Дзеці, жанчыны, старыя і халасцякі на гэты фільм не дапускаюцца.

## ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ

Ці можа казёл адпушчэння адбіцца ад стада?

ГУМАР З ВАРАДОЮ

## СПАКОЙНЫ ХАРАКТАР

— Дзядзьку, чаму вы так памалу ідзяце? На вас жа чакаюць!
— Калі чакаюць, то чаго ж мне бегчы?

## ПАВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

Старшыня Аглаблёвіч застаў вартаўніка на ферме спячага. Разбудзіў яго і пытае:
— Што гэта вы, дзядуля, спіце на такім адказным пасту?
— Ды бачыце, старшыня, як яно выходзіць, — адказвае вартаўнік. — Удзень праклятая баба не дае спаць — прымушае корпацца ў гаспадарцы, а ноччу — на работу. То калі ж тады, чорт яго бяры, паспаць можна?

## ДОБРЫ САБАКА

— У нас добры сабака: толькі хто набліжаецца да нашай хаты — ён адразу дае знаць!
— Гаўкае?
— Не, хаваецца пад ложак.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У тэатры ідзе рэпетыцыя. Маладая актрыса, якая іграе ролю пакінутай жанчыны, праводзіць сцэну так ненатуральна, што рэжысёр у адчаі крычыць:
— Паслухайце, у вас усё выглядае фальшыва! Пастаўце сябе на месца гераіні! Уявіце, што вас кінуў каханы. Што б вы зрабілі?
— Знашла б іншага.

*

У аўтобусе.
— Кандуктар, мы набітыя тут, як сардзіны ў бляшанцы, не можаце вы што-небудзь зрабіць, каб не было такога ціску?
— Вядома, мадам. Хай жанчыны ўдыхаюць, а мужчыны ў гэты час будуць выдыхаць, потым наадварот.

*

Заметка ў газеце:
„Сёння а сёмай раніцы ў мясцовай бальніцы Святога Патрыка місіс Рут Сміт нарадзіла пяцёра дзяўчынак. Лекары спадзяюцца, што ім удасца захаваць жыццё містэра Сміта“.



Made in Zadrypanka.

## ЛАВІСЯ, РЫБКА!



Ох, ужо гэтыя мужчыны...

ТРЫМАЙЦЕ ВУХА?
Каму прысвячаецца-той здагадаецца

# ДЗВЕ ЯБЛЫНІ

Дзве яблыні, Садовая з Лясной,
Спрачаюцца вясной.
Лясная кпіць:
— Ах, кінь ты выхваляцца
Сваёй культураю перадавой,
Са мной табе няма чаго раўняцца,
Я хутка ў неба ўпрушся галавой!..
— Пра гэта гаварыць давай не будзем, —
Другая кажа, — бо вядома і не нам:
Маіх пладоў заўжды чакаюць людзі,
Твае ж ідуць... свінням.
Імкнуцца ўвысь — няма ў тым бяды,
Бяда ўжо, калі горкія плады.

**В. Ліман**

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

# ПОЛЮШКО

**Слова В. Гусева**

**Музыка Л. Книппера**

Полюшко, поле,
Полюшко, широко поле!
Едут по полю герои,
Эх, да Красной Армии герои.

Девушки плачут,
Девушкам сегодня грустно,
Милый надолго уехал,
Эх, да милый в армию уехал.

Девушки, гляньте,
Гляньте на дорогу нашу,
Вьется дальняя дорога,
Эх, да развесёлая дорога.

Едем мы, едем,
Едем — а кругом колхозы,
Наши, девушки, колхозы,
Эх, да молодые наши села.

Только мы видим,
Видим мы седую тучу,
Вражья злоба из-за леса,
Эх, да вражья злоба, словно туча.

Девушки, гляньте,
Мы врага принять готовы,
Наши кони быстроноги,
Эх, да наши танки быстроходны.

В небе за тучей
Грозные следят пилоты,
Быстро плавают подлодки,
Эх, да корабли стоят в дозоре.

Пусть же в колхозе
Дружная кипит работа,
Мы — дозорные сегодня,
Эх, да мы сегодня часовые.

Девушки, гляньте,
Девушки, утрите слезы,
Пусть сильнее грянет песня,
Эх, да наша песня боевая!

Полюшко, поле,
Полюшко, зелено поле!
Едут по полю герои,
Эх, да Красной Армии герои!



КУРЁЗЫ

## ШЧАСЦЕ НЕ Ў ПРЫГАЖОСЦІ...

Аб гэтым сведчыць жыццё Габрыелы Гофман, якая зараз жыве ў Заходняй Германіі. Слава аб ёй распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе. Звычайная дзяўчына са звычайнай, нават, як сцвярджаюць многія, непрыемнай знешнасцю ў свой час скончыла медыцынскую навучальную ўстанову і стала працаваць медсястрой. Мінулі маладыя гады, і аб замужжы Габрыела нават і не думала: хто яе возьме такую ды яшчэ не багатую? Але што не зробіць з чалавекам капрызлівы лёс! Раптам уздумалася 24-гадовай дзяўчыне адцурацца ад сваёй прафесіі і... заняцца варажбой. І неўзабаве яна зрабілася самай знакамітай і папулярнай варажбіткай у Еўропе.

Кліентура ў яе вялікая і ўвесь час памнажаецца. А ў апошні час яе прароцтвы спакусілі вядомых фінансавых тузоў, біржавых дзялкоў і нават некаторых палітычных дзеячоў. І яна ўсім прадказвае заўтрашні дзень. Напрыклад, яна ўгадала на картах, што будзе ўкрадзены гангстэрамі старшыня Берлінскага сената Петэр Лорынс і вернуты толькі за салідны выкуп.

І не дзіўна, што такое прадказанне зрабілася сенсацыяй, хаця многія выказваюць думку, што Габрыела ведала пра гэта раней ад саміх тэрарыстаў. Як бы там ні было, а гэты выпадак павялічыў і без таго шырокую яе славу. Модная варажбітка зрабілася моднай нявестай і неўзабаве абрала сабе ў жаніхі вядомага паважанага чалавека — уладальніка пііўных бараў.

Зараз яна жыве, як пані. У яе ёсць уласная сакратар і адміністратар, якія вядуць яе справы ў адносінах з кліентурай, робяць ёй рэкламу і г.д.

СМЯЕЦЦА З НАМІ

**І чырвоны язык плеткара чэрніць.**